## Беларусь: выбары аб'яўленыя недэмакратычнымі

*Заява намесніка прэс-сакратара Дзяржпэпартамента ЗША Філіпа Рыкера*

Згодна з заявай міжнароднай місіі па нагляданні за выбарамі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ), працэс па выбарах прэзідэнта Беларусі, які завяршыўся галасаваннем 9 верасня, быў адзначаны сур'ёзнымі парушэннямі і бесперапынным умяшаннем з боку беларускіх уладаў. Сёння міжнародная наглядальная місія зрабіла выснову, што выбарчы працэс «не адпавядаў абавязацельствам перад АБСЕ па дэмакратычных выбарах». На жаль, ні адна частка выбарчага працэсу не была празрыстай і справядлівай. Сп. Лукашэнка ўсяго толькі выкарыстаў фасад выбараў, каб арганізаваць для сябе бессэнсоўную перамогу.

Злучаныя Штаты падзяляюць высновы АБСЕ аб тым, што выбарчы працэс быў недэмакратычны. Выбары, якія не з'яўляюцца ні свабоднымі, ні дэмакратычнымі, не могуць быць міжнародна прызнаныя. Падчас гэтых выбараў беларускія ўлады прадэманстравалі адкрытую непавагу да дэмакратыі і правоў чалавека, калі пазбавілі празрыстасці ўсе этапы выбараў і распачалі кампанію запалохвання. Яны адцягвалі ці перашкаджалі ўдзелу міжнародных і мясцовых наглядальнікаў, праследавалі членаў апазіцыі і незалежных журналістаў, канфіскоўвалі незалежныя выбарчыя матэрыялы і газеты, а таксама перашкаджалі звычайнаму паралельнаму падліку галасоў, паставіўшы вынікі афіцыйнага падліку пад сур'ёзнае сумненне.

Ізаляцыя Беларусі з'яўляецца вынікам палітыкі рэжыму Лукашэнкі. Мы выказваем шкадаванне, што беларускія ўлады не змаглі зрабіць важны крок, каб праз свабодныя і справядлівыя выбары перайсці ад міжнароднай ізаляцыі да інтэграцыі ў Еўропу і міжнародную супольнасць. Злучаныя Штаты працягваюць кансультацыі са сваімі еўрапейскімі партнёрамі і будуць ажыццяўляць меры, накіраваныя на спрыянне грамадзянскай супольнасці і аднаўленне дэмакратыі на Беларусі.

Прэзідэнт Буш бачыць будучую Еўропу адзінай, свабоднай і мірнай. Беларусь і яе народ могуць і павінны быць часткай гэтай Еўропы, і Злучаныя Штаты падтрымліваюць Беларусь ў іх намаганнях па вяртанні на шлях дэмакратыі і рынкавай эканомікі.

**Вашынгтон, 10 верасня 2001 г.**

## Вайна супраць свайго народа

Па словах расійскага праваабаронца Валянціна Гефтэра, прэзідэнцкія выбары ў Беларусі паказалі, што «ўлады краіны вядуць вайну супраць часткі грамадзянскай супольнасці».

10 верасня, выступаючы на прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў сталічнай штаб-кватэры грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны», дырэктар Інстытута правоў чалавека (Масква) і член савета расійскага праваабарончага цэнтра «Мемарыял» зазначыў, што каля 60 расійскіх праваабаронцаў з Масквы, Брянска, Ліпецка, Ніжняга Ноўгарада, Пскова і Смаленска на працягу тыдня ажыццяўлялі ва ўсіх абласцях Беларусі маніторынг выканання грамадзянскіх правоў і свабодаў падчас падрыхтоўкі і правядзення прэзідэнцкіх выбараў.

«За апошнія пяць гадоў беларускія ўлады стварылі ўсё, што маглі для таго, каб прэзідэнцкія выбары былі фармальна дэмакратычнымі, аднак па сутнасці — несправядлівымі і несумленнымі», — заявіў праваабаронца. Паводле яго словаў, гэта пацвярджаюць не толькі шматлікія факты парушэння выбарчага заканадаўства, зафіксаваныя ўнутранымі і замежнымі назіральнікамі, але і само становішча, што склалася ў краіне.

«Стан вайны ўлады супраць часткі ўласнага народа адчулі ўсе члены нашай дэлегацыі за тыдзень знаходжання ў Беларусі», — падкрэсліў спадар Гефтэр. Паводле яго словаў, у такім становішчы не могуць з'явіцца аб'ектыўныя ўмовы для сумленнага волевыяўлення грамадзянаў.

Праваабаронца адзначыў «каласальнае ўмяшальніцтва грамадзянаў Расіі» ў беларускі выбарчы працэс і заклікаў дэмакратычныя сілы дзвюх краінаў да супрацоўніцтва ў абароне грамадзянскіх правоў і свабодаў. «Бо ёсць пагроза, што ўладны рэжым узмоцніць атакі на найбольш актыўную частку грамадзянскай супольнасці Беларусі», — сказаў Валянцін Гефтэр.

**Марат ГАРАВЫ**

## Лукашэнка ганіць Віка

Па словах Аляксандра Лукашэнкі, Кансультатыўна-назіральнай групе (КНГ) АБСЕ больш няма чаго рабіць у Беларусі. Пра гэта кіраўнік беларускай дзяржавы заявіў 10 верасня на сустрэчы з журналістамі ў Палацы Рэспублікі.

Нагадаем, што раней Аляксандр Лукашэнка абяцаў 10 верасня «выкінуць» з Беларусі кіраўніка КНГ АБСЕ пасла Ханса-Георга Віка.

Як сказаў Лукашэнка, у адпаведнасці са сваім мандатам КНГ АБСЕ павінна была «назіраць і раіць», а таксама аказваць дапамогу пры стварэнні выбарчага заканадаўства. Пасля таго, як у Беларусі прайшлі і парламенцкія і прэзідэнцкія выбары, па словах прэзідэнта, КНГ АБСЕ рабіць у краіне больш няма чаго.

Разам з тым Лукашэнка зазначыў, што, калі спадар Вік «знойдзе прымяненне сваім сілам у Беларусі, мы будзем гэта вітаць». «Але мы б хацелі, каб ён іх знайшоў у такім станоўчым пазітыўным ключы, каб ён быў сябрам нашага народа і лічыўся з інтарэсамі нашага народа»,– сказаў Лукашэнка.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

## Вінцук Вячорка: «Рэжым Лукашэнкі выбары прайграў»

«Рэжым Лукашэнкі прайграў выбары, бо цывілізаваны сьвет так і не прызнаў іх дэмакратычнымі. Лукашэнка ня здолеў падмануць альбо падкупіць эўрапейцаў. Таму ён зацягнуў выдачу ім візаў, а некаторых аўтарытэтных юрыстаў увогуле загадаў не пускаць у Беларусь. Але яны праглынулі крыўду — і дэлегацыі прыехалі. Эўрапейцы ўбачылі ўсё: і хлусьню ды несправядлівасьць у афіцыйных газэтах і на тэлебачаньні, і адсутнасьць дэмакратычных прадстаўнікоў у выбарчых камісіях, і бяспраўнасьць назіральнікаў. А фактаў дзікунскага абыходжаньня зь незалежнымі назіральнікамі хапае: іх тысячамі выкідалі з участкаў і нават білі. Эўрапейцы не паверылі самахвальскім лічбам Лукашэнкі, яны толькі паспачувалі беларусам, што ізаляцыя нашай краіны ня будзе спрыяць іх дэмакратызацыі. Затое адзначылі высокую палітычную культуру дэмакратычных сілаў.

Эўропа вызначыла сваё стаўленьне да лукашэнкавага выбарчага фарсу, а нам трэба давесьці да кожнага грамадзяніна нашай краіны праўдзівую інфармацыю пра тое, як улады скралі ягоны голас. І дамагацца новых, дэмакратычных выбараў.

І яшчэ. Нарэшце настаў канец ілюзіям некаторых нашых дзеячоў, нібыта Расея дапаможа беларусам пазбыцца дыктатуры. Крэмль зацікаўлены ў слабой, беднай, дыктатарскай Беларусі, якою лёгка памыкаць і якую ўрэшце лёгка праглынуць».

# Брудныя метады «элегантнай перамогі»

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Такая вялікая яўка на датэрміновае галасаванне – 72% – тлумачыцца моцным ціскам з боку кіраўніцтва БДПА, сцвярджае М.Пастухоў. Студэнтам тут пагражалі – калі яны не прагаласуюць датэрмінова, іх не засяляць у інтэрнат. Прадстаўнікі рэктарата не называлі адкрыта прозвішча прэтэндэнта, за якога трэба аддаць свой голас. Тых, хто датэрмінова выканаў свой грамадзянскі абавязак, адпусцілі дахаты да панядзелка, 10 верасня.

На 23-ці ўчастак, які знаходзіўся ў 89-й школе, каля 13.00 увайшлі два невядомыя чалавекі ў скураных куртках. Яны падышлі да скрыняў і ў адкрытую апусцілі ў скрыні вялікую колькасць бюлетэняў, паведаміла «Незалежнае назіранне». Аднаго з гэтых невядомых затрымаў назіральнік ад Таварыства беларускай мовы Кірыенка. Аднак намеснік старшыні выбарчай камісіі Цюрын загадаў адпусціць затрыманага і адмовіўся выклікаць міліцыю. Парушэнне было зафіксаванае ў акце, які падпісалі ўсе назіральнікі, што знаходзіліся ў той час на ўчастку, у тым ліку і назіральнікі ад БПСМ.

На ўчастку для галасавання №29 у Партызанскім раёне (сярэдняя школа №87, што на вул. Шчарбакова, 23) бюлетэні для галасавання выдаваліся без прад'яўлення дакументаў, паведаміў прэс-цэнтр У.Ганчарыка. Члены выбарчых камісіяў «верылі» выбарцам «на слова» і нават не бралі ў іх дакументы. Пры гэтым «афіцыйныя» назіральнікі ніяк не рэагавалі на гэтае грубае парушэнне і спакойна сядзелі за адведзеным ім сталом. На гэтым жа ўчастку члены выбарчай камісіі тлумачаць, як правільна запаўняць бюлетэнь: «Стаўце «крыжык» за Лукашэнку альбо за каго палічыце патрэбным». Такім чынам, аказваецца відавочны ўціск на волевыяўленне выбаршчыкаў, адзначаюць у прэс-цэнтры.

**Брэст**

На ўчастку №32 Ленінскага раёна Брэста адсутнічала урна для датэрміновага галасавання, паведаміў прэс-цэнтр «Незалежнага назірання». Нягледзячы на патрабаванні беларускіх і міжнародных назіральнікаў вярнуць урну на ўчастак, старшыня камісіі Тацціяна Саланенка, дырэктар школы №16, адмовілася гэта зрабіць. Яна матывавала сваю адмову аргументам, што, маўляў, урну ахоўвае міліцыянт у асобным памяшканні. Аднак паводле Выбарчага кодэкса урна мусіць знаходзіцца ў зале для галасавання.

У гэты ж дзень у выставачнай зале па вул. Савецкай праходзіла выстава, прысвечаная А.Лукашэнку. Пра гэта паведамілі незалежныя назіральнікі. Усё памяшканне было завешанае партрэтамі кандыдата ў прэзідэнты А.Лукашэнкі – тады як у дзень выбараў любая агітацыя забароненая. Апроч таго, у зале праходзіў канцэрт у падтрымку гэтага кандыдата. Такім чынам быў парушаны арт. 45 Выбарчага кодэкса Беларусі.

Назіральнік Алег Даманаў выявіў, што на ўчастку ў школе №14 з урнаў для выбарчых бюлетэняў былі сарваныя пячаткі, паведаміла «Незалежнае назіранне». Аднак калі А.Даманаў паспрабаваў разабрацца з гэтым парушэннем, на ўчастак прыбыў нарад міліцыі і затрымаў самога назіральніка.

**Брэсцкая вобласць**

Яшчэ да заканчэння часу галасавання былі абвешчаныя вынікі волевыяўлення сярод пацыентаў Пінскага наркалагічнага дыспансера. Як паведаміў прэс-цэнтр У.Ганчарыка, хворыя на алкагалізм аднадушна прагаласавалі за А.Лукашэнку.

**Гродна**

Уначы з 8 на 9 верасня у Упраўе БНФ і Маладога Фронту ў Гародні шасцёра супрацоўнікаў КДБ правялі ператрус. Яны так і не здолелі патлумачыць, што шукаюць. А прычынай ператрусу, па іх словах, стала ўзбуджэнне крымінальнай справы «па факце зняважання рэжыму Лукашэнкі».

Зафіксаваныя факты агітацыі пасля заканчэння тэрміну яе правядзення. Зранку 9 верасня ў вітрынах Дома гандлю «Нёман» і гастранома на вул. Савецкай панаклейвалі вясёлыя плакаты з партрэтамі А.Лукашэнкі і ягонай перадвыбарнай праграмай. Толькі пасля шматлікіх зваротаў грамадзянаў агітацыйныя матэрыялы былі прыбраныя адміністрацыяй магазінаў. Пра гэта паведаміў прэс-цэнтр У.Ганчарыка.

**Гродзенская вобласць**

У **Навагрудскім раёне** на выбарчым участку №22 кіраўніцтва мясцовага калгаса абавязала бухгалтараў даставіць грошы і выплаціць заробак за жнівень. Але спачатку калгаснікі мусілі прагаласаваць, паведаміў прэс-цэнтр У.Ганчарыка.

Апроч таго, адзначаецца, што ў маштабах Гродзенскай вобласці Навагрудскі раён лідзіруе па выніках датэрміновага галасавання. На выбарчых участках №6 і №9 выніковыя лічбы ўдзелу выбаршчыкаў у ім склалі, адпаведна, 30% і 20%.

**Магілёў**

Ні на адзін выбарчы ўчастак Магілёва не былі дапушчаныя журналісты. Такім чынам былі выкананыя патрабаванні старшыні Магілёўскай абласной камісіі па выбарах Н.Мяцеліцы. Апроч таго, назіральнікам і журналістам не прадастаўлялася інфармацыя пра вынікі датэрміновага галасавання і колькасць тых, хто прагаласаваў 9 верасня. Пра гэта паведаміў прэс-цэнтр У.Ганчарыка.

На выбарчым участку №150, што месціцца ў вайсковай частцы 5523, у 12.00 9 верасня прагаласавала ўжо 100% выбаршчыкаў. 90% з іх прагаласавалі датэрмінова. Па звестках «Незалежнага назірання», 98% выбаршчыкаў прагаласавалі за Лукашэнку, 2% — за Гайдукевіча, 0% — за Ганчарыка. І гэта не дзіва, бо старшыня выбарчай камісіі – зампаліт вайсковай часткі.

На выбарчым участку №122 назіральнікі зафіксавалі факт падтасоўкі вынікаў галасавання. Члены ўчастковай камісіі на вачах у назіральнікаў узялі стос бюлетэняў з галасамі за У.Ганчарыка і залічылі іх на карысць А.Лукашэнкі. На пратэсты назіральнікаў старшыня камісіі ніяк не адрэагаваў. Тры назіральнікі напісалі па гэтым факце заяву ў пракуратуру, паведаміла «Незалежнае назіранне».

Супрацоўнікі міліцыі абшукалі легкавік назіральніка Магілёўскага аддзялення Беларускага Хельсінкскага камітэта Міхаіла Краўчанкі. Яны знайшлі ў машыне інфармацыйныя буклеты Уладзіміра Ганчарыка і склалі пратакол аб незаконнай агітацыі ў дзень выбараў. Суд над М.Краўчанкам быў прызначаны на 10 верасня. У той жа час, адзначаюць прадстаўнікі БХК, агітацыйныя плакаты А.Лукашэнкі ў дзень выбараў у Мінску спакойна віселі, і ніхто не лічыў гэта супрацьзаконным.

Супрацоўнікі ДАІ наладзілі сапраўднае паляванне на кіроўцаў аўтамабіляў, што праязджалі каля перадвыбарнага штаба У.Ганчарыка, паведаміў прэс-цэнтр адзінага кандыдата. Міліцыя спыняла ўсе без выключэння аўтамабілі і вельмі ўважліва даглядала іх. Супрацоўнікі ДАІ ніяк не тлумачылі кіроўцам,чаму яны праводзяць такую шчыльную праверку. Але тыя кіроўцы, якія асабліва актыўны выказвалі сваю нязгоду з міліцэйскім сваволніцтвам, канфіскоўвалі правы.

Адразу пасля заканчэння галасавання да будынка, у якім месціўся магілёўскі абласны штаб У.Ганчарыка, пад'ехаў аўтобус з байцамі АМАПа. Супрацоўнікі спецпадраздзялення не ўчынялі ніякіх дзеянняў, аднак актывісты штаба не выключаюць магчымасці штурму.

**Магілёўская вобласць**

У **Шклове** супраць незалежнага назіральніка Пятра Мігурскага была ўзбуджаная крымінальная справа, паведаміў Беларускі Хельсінкскі камітэт. Гэта першая крымінальная справа супраць прадстаўніка незалежнага назірання. Напярэдадні пракурор Шклоўскага раёна малодшы саветнік юстыцыі І.Сніткоў вынес пастанову аб узбуджэнні ў дачыненні да грамадзяніна П.Мігурскага крымінальнай справы па арт. 192 Крымінальнага кодэкса Беларусі – «аб выбарах, рэферэндумах і адкліканні дэпутата». Гэты артыкул прадугледжвае адказнасць за падлог, парушэнне таямніцы галасавання, наўмысна няправільнага падліку галасоў і г.д.

Назіральніка П.Мігурскага абвінавачваюць у тым, што ён нібыта прадставіў несапраўдныя выпіскі з пратаколаў грамадскіх аб'яднанняў «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» і «Беларускі Рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў» аб накіраванні на выбарчы ўчастак №44 Л.Івановай і Н.Гусаковай. Па версіі следства, П.Мігурскі спачатку склаў неабходныя дакументы, потым паставіў аб гэтым у вядомасць Л.Іванову і Н.Гусакову, паабяцаўшы грашовае ўзнагароджанне за ўдзел у выбарах у якасці назіральнікаў.

Стала вядома, што следчыя пракуратуры правялі ператрус у кватэры П.Мігурскага, з яго самаго ўзялі падпіску аб нявыездзе. Падчас першага допыту следчага больш цікавіла не дакументальнае афармленне дзвюх жанчынаў у якасці назіральнікаў, а пытанні фінансавання выбарчай кампаніі Уладзіміра Ганчарыка.

Як лічаць прадстаўнікі БХК, дзеянні пракуратуры г. Шклова можна расцэньваць як правакацыю і спробу кінуць цень на дзейнасць арганізацыі. Старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта Тацціяна Працько адзначыла, што «прадстаўнікі мінюста толькі два дні таму правяралі ўсе дакументы, звязаныя з рэгістрацыяй назіральнікаў, і нічога крамольнага знойдзена не было».

Адвакат Сяргей Цурко заявіў, што «гэта ўздзеянне на незалежных назіральнікаў з боку ўладаў. Для таго, каб адхіліць ад назірання аднаго канкрэтнага і запалохаць іншых».

Тым часам, у горадзе **Бялынічы** незалежны назіральнік У.Мяцеліца патрапіў за краты. Напярэдадні, 8 верасня суд вынес пастанову аб адміністратыўнай адказнасці У.Мяцеліцы – турэмным зняволенні на 15 дзён. Пра гэта таксама паведаміла «Незалежнае назіранне».



Фота Ул.ШЛАПАКА

